Гарадзенская КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД·

№004, ТРАВЕНЬ 2012

# АНОНСЫ АНОНСЫ АНОНСЫ




Павал Севярынец,- " З вандэяй не дамаўляюся"



Гарадзенскія сустрэчы актыву Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі



Гародня і Вялікае Княства Літоўскае





**Беларусь краіна фестываляў. Хто ня ведае «Славянскі базар» у Віцебску, «Магутны Божа» ў Магілёве, фестываль Нацыянальных культур ў Гародні.**

**Хто пацікавіўся, наколькі ўзнялі міжнародны рэйтынг беларусаў гэтыя культурныя дзеі? Як вітаюць беларусаў ў краінах Эўразвязу мы ведаем, Як вітаюць нашых землякоў суседзі з ўсходу, мы таксама ведаем з расповядаў, тых, хто працаваў на новабудоўлях Масквы і іншых мегаполісаў Расеі.**

*Гэта «між» залезла ў косці,*
*Пакуляла ўсё ўверх дном.*
*Правяць баль у хаце госці,*
*Гаспадар жа – пад сталом.*



# Ў калейдаскопе навін БХД



Чарговае пасяджэнне актыву абласной суполкі БХД Гародні адкрыў па традыцыі малітвай Ойча Наш лідар абласной арганізацыі Мікола Баўсюк.



З вуснай рэяводцы была абвешчана інфармацыя, што незаконна асуджаны на зняволенне ў вязніцы сустаршыня партыі Павал Севярынец адхіліў прапанову афіцыйнага Менску аб напісанні прашэння аб памілаванні.

Спадар Баўсюк дадаў, што вязнік сумлення - Павал Севярынец ніколі не пойдзе на супрацоўніцтва з дзеючым рэжымам.

І задача сяброў БХД Прынёманскага краю даводзіць праўдзівую інфармацыю аб пазіцыі Паўла.

Надзённым для актыву былі і словы дакладу Міколы Баўсюка аб вядомых яму парпушэннях правоў чалавека ў рэгіёнах вобласці. Ў прыватнасці, такі факт мае месца ў Свіслацкім раёне, горадзе Ваўкавыску. Прагучала прапанова з"ездзіць групе прадстаўнікоў БХД Гародні на месца і высветліць сітуацыю.

Ня менш актуальным было і пытанне супрацоўніцтва сяброў БХД абласнога цэнтра з раённымі суполкаамі. Зараз на тэрыторыі большасці раёнаў існуюць суполкі партыі БХД, на месцах працуюць свае рэгіянальныя актывісты. З імі неабходна ўмацоўваць кантакты, праводзіць сумесныя акцыі, запрашаць на імпрэзы ў Гародню. Толькі шляхам цеснага кантакту можна данесці ў масы ідэі, задачы, мэты і дзейнасць партыі БХД на тэрыторыі Бацькаўшчыны.

## Сцежкі памяці

Вясна, Вялікдзень і Радуніца-гэта няпоўны пералік тых дзён, ў якія сваю хрысціянскую і патрыятычную дзейнасць сябры Гарадзенскай філіі БХД вызначаюць найбольш актыўнымі дзеямі.

Адзначаны ўгодкі абвяшчэння БНР, дадзена адзнака да сучаснага безпрынцыповага стаўлення ўладных да трагедыі дваццатага стагоддзя – выбуху на Чарнобыльскай АС. А вось Радуніца-гэта Дзень памяці продкаў, тых змагароў і паплечнікаў, хто нешкадуючы ўласнага здароўя і кар"еры аддаў сябе барацьбе за адраджэнне Бацькаўшчыны.

З нагоды свята група актывістаў БХД Гародні правяла акцыю " сцежкамі памяці". Мэта якой, даніна павагі выдатным землякам і зямлячкам зямлі -Прынёманскага краю.

Найперш чальцы групы накіраваліся пешшу па вуліцы Каліноўскага да дома, дзе пражываў знакаміты дзеяч адраджэння беларушчыны- прафесар Міхась Ткачоў. Тут была прачытана малітва Ойча Наш і ўскладзены кветкі да памятнай дошкі ўсталёванай ў памяць рупліўца адраджэння, затым група накіравалася да муроў ўніверсітэта імя Янкі Купалы, дзе ўшанавала малітвай і кветкамі памяць Песняра Радзімы Янкі Купалы. Далей шлях гарадзенцаў пралёг да помніка знакамітай пісменніцы пазамінулага стагоддзя Элізы Ажэшкі. З пад пяра якой як бы ажылі, і ўбачылі свет сучаснікі жыцця і паўстання на нашых землях касінераў славутага Кастуся Каліноўскага. Завяршылася акцыя пераездам групы на гарадзкія могілкі ўрочышча Спакой , дзе пакояцца парэшткі яшчэ аднаго знакамітага барацьбіта за адраджэнне Бацькаўшчыны Аляксандра



Міхальчыка. Аляксандр Аляксандравіч , так яго называлі гарадзенскія адраджэнцы далучыўся да руху адраджэння пазней, але дзямі сваімі пазаставіў яскравы след для нашчадкаў. Ён ўзначальвыаў абласную і гарадзкую суполкі БНФ" Адраджэнне", арганізоўваў і праводзіў акцыі супраціву дзеючай вертыкалі ўлады. На жаль, ня вытрывала здароўе руплiўца за беларушчынуі ён пайшоў заўчасна ад нас.

### Народныя дэпутаты ў дзеянні

Створаная па ініцыятыве Цэнтральнай Рады БХД Рада Нардных дэпутатаў пачала плённа дзейнічаць на тэрыторыі ўсёй Бацькаўшчыны.

За невялікі прамежак ад часу стварэння Нардэпы правялі больш за 200-це акцый, рэалізавалі звыш ста сацыяльных праэктаў.

### БХД ў Гародні

Першая дэкада траўня стала для чальцоў партыі БХД Гарадзеншчыны адметнай. Сябры абласной суполкі, а іх на сустрэчу сабралася больш 30-ці чалавек ладзілі рэспубліканскі двухдзённы семінар па тэме"Практычныя аспекты дзейнасці партыйных структур на мясцовым ўзроўні". Дзея ладзілася ў адным з памяшканняў Генеральнага консульства рэспублікі Польшча ў Гародні. Да ўдзелу ў акцыі прыехалі і прадстаўнікі ЦР БХД.



Тэма дзейнасці рэгіянальных структур ва ўсе часы спараджала шмат размоў функцыянераў зверху:Маўляў, рэгіянальшчыкі неядзейнічаюць ў рэчышчы рашэнняў партыйнага цэнтра. Не выключэннем стала і старажытная Гародня.

Менавіта пытанням першаснай дзейнасці сяброў БХД ў рэгіёнах і прысвячалася лекцыя каардынатара Цэнтральнай Рады БХД Алеся Шамякіна.

І мела яна лірычны назоў" Палітычныя партыі, беларускае заканадаўства і дзейнасць на мясцовым ўзроўні". Адразу ж паміж лектарам і мясцовымі актывістамі БХД разгарэлася дыскусія аб спецыфічнасці рэгіёнаў, гісторыі, і вопыту вядзення апазіцыйнай палітычнай барацьбы на месцах. Палеміка доўжылася прыкладна гадзіну і бакі пазасталіся задаволенымі выказаным і пачутым, як з боку гарадзенцаў, так і дакладчыка.

Любы вопыт дзейнасці ва ўмовах татальнага перасследу каштоўны.Спасабам папулярызацыі ідэяў БХД ў Беларусі распавёў прэс-сакратар Цэнтральнай Рады БХД Дзяніс Садоўскі. У прыватнасці спадар Дзяніс зазначыў:" што любая самая нязначная грамадзкая справа надае вядомасці партыі, павышае яе аўтарытэт".Дакладца прывёў прыклады персанальнай дзейнасці па месцы пражывання, распавёў спосабы правядзення такіх малаёмістых грамадзкіх акцый і патлумачыў іх карысць справе БХД. Карысна падзяліўся сваім замежным вопытам адзін з актывістаў руху БХД Яўген Кухлей. Ён жа распрацоўшчык праграмы "Народны дэпутатў дзеянні". Так, будучы ў ЗША наш калега прыкмячаў значную актыўнасць ў пытаннях мясцовага самакіравання тамтэйшых прадстаўнікоў грамадзкіх рухаў, фондаў і арганізацый. Менавіта іх дзейнасць ініцыятыва знізу не дае спакою Федэральнаму цэнтру, патрабуе ад яго выканання самых надзённых для канкрэтнага штату праблем. Менавіта ўвага цэнтра да ініцыятыў органаў мясцовага кіравання на думку дакладцы дае шмат пераваг . І для сведчання ім былі прыведзены шматлікія прыклады пазітыўных вынікаў такіх мясцовых ініцыятыў.

На жаль , прысутныя з горыччу зазначылі, што да такіх высот актывістам на месцах ў нашай краіне яшчэ далёкка. Іх проста не чуюць, альбо іх дзейнасць кампраментуюць тыя, хто павінен выконваць так патрэбныя для рэгіёна заўвагі-пажаданні. На нашай зямлі мясцовае самакіраванне і мясцовае ініцыятыва ня больш чым ілюзорнасць. Прынамсі набалелае пытанне трыццацікіламетровай памежнай зоны. Колькі самых , захаваных ў глыбінях душы надзей маюць тыя, хто пражывае на гэтых тэрыторыях. Польскі бок ратыфікаваў пагадненне. А беларусы на месцы чакаюць. А чаканне гэта мае канкрэтны назоў ,- каманда са сталіцы.

Вельмі слушным для чальцоў БХД Прынямонння стаў практыкум каардынатара Цэнтральнай Рады БХД Валерыі Чарнаморцавай па пытаннях -

" Роля інтэрнэт і сацыяльных сетак ў правядзенні мясцовых кампаній".

Ў дадатак ўдзельнікі семінару вялі знаёмствы, дзяліліся сваім мясцовым вопытам дзеёнасці ў суадносінах з прадстаўнікамі раённых вертыкаляў.



**Ларыса Ішчанка. Прафесійная журналістка. Скончыла інстытут журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыве ў Гародні . Супрацоўнічае з “Гарадзенска крыніцай”. У творчасці аддае перавагу допісам на тэму далёкай гістарычнай мінуўшчыны.**

# Гародня і пачатак Вялікага Княства Літоўскага

**Блукаючы па брукаваных камянём вузкіх вулачках Гародні, глядзіш на старадаўнія помнікі архітэктуры і адчуваеш, як ўсё нібыта дыхае гісторыяй. Уяўляеш сабе, як па гэтых жа вуліцах праязжалі карэты, як важна шпацыравалі нашыя знакамітыя землякі - Стэфан Баторый, Давыд Гарадзенскі, Кастусь Каліноўскі і многія другія. Шмат чаго бачылі сцены каралеўскіх замкаў, Каложскай царквы, сінагогі і іншых помнікаў архітэктуры. Сёння да гэтых месцаў прыходзяць маладыя, пабраныя шлюбам пары, каб прызнацца ў каханні і сфатаграфаваць лепшыя імгненні свайго жыцця.**

На жаль, шмат гістарычных фактаў старажытнасці застаюцца невядомымі па сённяшні дзень. Пасля вялікага пажару ў 1183 годзе Гродна больш чым на паўстагоддзя знікае з поля зроку ўсходнеславянскіх летапісаў.

Зацікаўленнасць гісторыяй свайго горада прывяла мяне да краязнаўцы, доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча.

- Цікава даведацца, ці захаваліся ў Гародні, сляды некалі магутнай дзяржавы – Вялікікага Княства Літоўскага?

Сёння ў горадзе захоўваецца шмат напамінкаў аб той дзяржаве: дакументы і рэчы ў гісторыка-археалагічным музеі, само архітэктурнае аблічча сённяшняга гістарычнага цэнтра (сетка вуліц, жылыя дамы і храмы) склалася менавіта тады - ў эпоху Вялікага Княства. А пра паўтаравекавую вайну з крыжакамі засталося вельмі многа сведчанняў у зямлі на падворку старога замка. Археолагі знайшлі тут наканечнікі арбалетных стрэлаў, фрагменты даспехаў, каменныя ядры ад катапультаў, дэталі баявых арбалетаў, пахаванні загінуўшых абаронцаў.

Дасціпныя работнікі музея на Старым замку склалі дзве горкі з гэтых вялікіх каменных ядраў 14-15 стст. каля ўваходу ў музей прама пад жэрламі бронзавых гармат 18 ст., чым прымусілі некалькі пакаленняў гарадзенцаў ламаць галаву над праблемай: як такія вялікія ядры заганялі ў такія малыя жэрлы гармат?

-Які гістарычны прамежак часу застаецца невядомым?

З 1252 г., няма нават ніводнай узгадкі пра горад не кажучы ўжо аб якой-небудзь інфармацыі пра мясцовыя падзеі. Тым не менш, мы дакладна ведаем, што горад у той цёмны час існаваў і нават перажываў час росквіту. Археалагічныя раскопкі засведчылі мірнае і спакойнае жыццё гарадзенцаў у канцы 12 - першай палове 13 ст., а таксама пашырэнне тэрыторыі горада ад Старога замку ў бок сённяшняй Савецкай плошчы і ўздоўж Нёмана, там, дзе знаходзіцца вуліца Падольная (сёння самая старажытная назва вуліцы ў нашым горадзе).

Храністы і летапісцы суседніх краінаў зноў зацікавіліся Гародняй у сувязі з новымі і надзвычай важнымі падзеямі на Панямонні, у якіх гарадзенцы прымалі самы непасрэдны ўдзел. Гаворка ідзе пра пачатак утварэння ў Верхнім і Сярэднім Панямонні новай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага. На жаль, доўгі час, па пры-

чынах далёкіх ад навукі, за гарадзенцамі не прызнавалі актыўнай ролі ў гэтым працэсе. Паводле афіцыйнай расійска-савецкай гістарыяграфіі якраз у той "цёмны" час (першая палова 13 ст.) Гародня была захоплена літоўскімі феадаламі і прыгняталася імі (а пазней яшчэ і польскімі панамі) ажно пяць стагоддзяў, пакуль яе не вызваліў старэйшы расійскі брат. Гэтую "казачную "гісторыю ўводзілі ў галовы гарадзенцаў праз усе падручнікі і школы ад пачатковай да вышэйшай, так доўга і старанна, што нарэшце амаль ўсіх пераканалі ў яе праўдзівасці. Чаму так рабілі расейскія, а потым савецкія ўлады, зразумець няцяжка. Заваяваным народам лягчэй кіраваць, калі адабраць у яго гістарычную памяць.

- Як гарадзенцы трымалі абарону, ад чужынскіх нападаў?

Абараняць Гародню ад валынска-татарскіх войскаў дамапагалі перасяленцы з Прусіі - прусы і барцяне, якія ўцяклі ад нямецкіх крыжакоў і з дазволу Вялікага князя Трайдэна пасяліліся ў ваколіцах горада. У 1277 г. галіцка-валынскае войска, разам з татарамі, зноў ідзе сюды вайной. Адзін з валынскіх атрадаў апярэдзіў асноўныя сілы і размясціўся на начлег па дарозе ад Ваўкавыска да Гародні ("ляглі на ноч, і без варты, і даспехі свае паздымалі"). Валынскі летапісец паведамляе далей, што нехта збег ад атрада да горада і сказаў гараджанам: "маўляў, людзі ляжаць на сяле без парадку. Прусы і барцяне, выехаўшы з горада, ударылі на іх ноччу і пабілі іх усіх, а іншых схапілі і павялі ў горад". Назаўтра да месца падзеі падыйшло асноўнае валынскае войска. Да князя прыбег адзін з тых, хто здолеў ўратавацца "нагі і босы" (а справа была зімой - А.К.) і пачаў апавядаць, што пабітыя ўсе баяры Мсціслава і Льва, і слугі ўсе пабітыя, а іншыя схопленыя". Валынскае войска падышло да Гародні і ўбачыла: "... слуп каменны высокі стаяў перад варотамі горада і ў ім заселі прусы і нельга было прайсці паўз іх да горада, бо пабівалі з таго слупа". Аднак валынянам удалося захапіць абарончую вежу, што выклікала жах сярод абаронцаў горада. Тым ня менш гарадзенскі замак валыняне узяць не змаглі, таму пачалі мірныя перамовы. Дамовіліся на тым, што здымуць аблогу, калі гарадзенцы вернуць палонных. "Атрымалі сваіх баяраў, а гораду нічога не зрабілі, так і вярнуліся васваясі".

- Так жыццё горада аказалася звязаным з лёсамі Вялікага Княства Літоўскага ад самых пачаткаў гэтай дзяржавы. Няма ніякага сумнення, што гарадзенцы самыя выбралі гэты лёс і падзялялі яго да апошніх дзён існавання Вялікага Княства. Тое, што выбар гэты быў не выпадковай справай, не данінай часовым выгодам Гародня даказала ўжо ў 80-я гады 13 ст., калі стала адной з галоўных апораў маладой дзяржавы ў барацьбе з новым страшным ворагам - Тэўтонскім ордэнам.

**Ларыса Ішчанка**




**Пад такім назовам выйшаў з друку першы, пілотны нумар маладзёвай газеты партыі БХД Беларусі. На яе старонках маладыя, а гэта заўтрашні дзень дзейнсці БХД змогуць весці свае дыскусіі, выказваць думкі, абменьвацца інфармацыяй, дзяліцца ідэямі з паплечнікамі.**

# Вільня - калыска сучаснай беларускай культуры

Залы Эўрапейскга гуманітарнага ўнівесітэта, што месціцца зараз ў Вільні, яшчэ раз сталі асяродкам адраджэння і захавання сучаснай беларускай культуры і літаратуры.

Дзякуючы высілкам студэнтаў 2-га курса спецыялізацыі " Гісторыя Беларусі і культурная антрапалогія" наладжана выстава пад назвай " Як Дзядзька Антось у Вільню ездзіў". Прадвесніцай выставы стала аднайменная тэатралізаваная экскурсія жадаючых па старажытнай Вільні.

Аздобілі экспазіцыю выставы фотаздымкамі студэнты з праграмы "Візуальны дызайн і медыя". Усе гэтыя высілкі студэнцкай моладзі прысвечаны 125-годдзю нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

Як вядома, асноўная частка паэмы прысвячалася аўтарам " Новай зямлі" паездцы галоўнага героя твора-Дзядзькі Антося ў Вільню. Патрыёты-даследчыкі Алесь Белы з Менска і віленец Андрэй Антонаў аднавілі "маршрут" коласаўскага героя. Цяпер студэнты-сучаснікі хадзілі па вуліцах на якіх калісці вандраваў дзядзька Антось.

Другую частку свята ладзілі ня толькі студэнту ЭГУ. Разам з імі на віленскім чыгуначным вакзале знаходзіліся і выкладчыкі. Пільнае вока аўтаркі допісу заўважыла сярод прысутных нямала прыгажунь апранутых ў нацыянальныя беларускія строі. Пра гэта парупіліся віленскія беларусісты, якія задзейнічалі для гэтага нават Літоўскую Дзяржаўную кінастудыю.

Побыт у Вільні Дзядзькі Антося працягваўся на вуліцах Пііма, Лідскай Кейданскай, Нямецкай і Віленскай. У рэшце-рэшт імправізаваны Дзядзька Антось

**Працяг на 6 старонцы**

вызначыў дакладную дарогу і трапіў ў банк (зараз тут месціцца Віленскі паштамп) і парашаўтут свае фінансавыя справы.

Затым, разам з новымі сябрамі ён дзякаваў любімы горад, яго грамадзян і сілкаваўся разам з прысутнымі на святой для беларусаў гары Гедыміна.

Сваёй жа акцыяй тамтэйшыя беларусы, прыхільнікі беларушчыны, віленскія студэнты-беларусісты як бы разбурылі існуючыя заскарузлыя стэрэатыпы і тым самым наноў вярнулі " Новай зямлі" жывую рэчаіснасць.

Задума ўдалася.

Да ўдзелу ў імпрэзе атрымалі запрашэнне і студэнту гарадзенскіх вышэйшых навучальных ўстаноў. Аднак, здзейсніць мару - пабываць на вуліцах Вільні, паўдзельнічаць ў гэткай гістарычнай дзеі памяці і шанавання недалёкай мінуўшчыны гарадзенцы не змаглі. Супраць побыту выказаліся адміністрацыі ВНУ.




## З крыніц міжнародных!

### Амэрыка

Амерыканскія службы сацыяльнай апекі параненых ў лакальных міжнародных канфліктах, а таксама дзеючыя ваенныя, атрымалі для маральнай адаптацыі сямей загінуўшых і параненых новыя электронныя цацкі-інструктары і дарадцы.

На думку начальнікі Генеральнага штабу Пентагона –гэта вельмі своечасовая і неабходная рэч. Цацкі-інструктары заўчасна могуць распавесці малому дзіцяці інфармацыю аб тым, што іх бацька загінуў і не вярнецца. Альбо прыйдзе з вайны калекам. У электронны мозг такой цацкі распрацоўшчыкамі закладзены спецыяльныя праграмы, якія заўчасна змогуць падрыхтаваць нават цэлую сям"ю да такой трагічнай інфармацыі. Даць патрэбныя інструкцыі паводзін, ўзаемамадзеяння з параненым, яго маральнай і фізічнай падтрымцы.

Дарэчы, мультымедыйныя гульні вяліся з амерыканскім народам і раней.Так, падчас вялікай дэпрэсіі сацыёлагі разам з палітыкамі ўмела выкарыстоўвалі пазітыўных мульцігерояў для ўздыму добрага настрою абываццеля.

### Эўропа за абмежаванні

Урад Швейцарскай канфедэрацыі выступіў з жорсткай заявай аб абмежаванні выдачы консульскімі службамі гэтай краіны працоўных віз.

Абмежаванне тычыцца грамадзян краін Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

Апублікаваны нават спіс краін, што трапілі ў грона абмежаванняў.

У прыватнасці, ўрадаўцы называюць восем краін-гэта Летува, Эстонія. Латвія, Польшча. Славакія, Славенія, Македонія, Харватыя. Аднак, як заўважаюць эксперты па кантролю за працоўнымі рэсурсамі Эўразвязу спіс можна доўжыць. На іх думку, швейцарцы наўмысна замоўчваюць назвы такіх краін, як Баўгарыя, Румынія.

Нагадаем, што летась квота працоўных віз для вышэйзгаданых краін налічвала шэсць тысяч працоўных месцаў, сёлета Швейцарыя ў аднабаковым парадку скараціла гэтую лічбу да двук тысяч.

Супраць захадаў ураду гэтай альпійскай дзяржавы выступаюць чыноўнікі свмага высокага рангу ў Брусэлі і, Парыжу, Берліну. Называючы такія крокі непрадуманымі, паспешнымі і наносячымі шкоды самой ідэі аб"яднанай Эўропы.

### Расея

Ці прыслухаецца каманда Улад-

зіміра Пуціна да заўваг апазіцыі

На расійскім палітычным небасхіле ўсё больш гучна і часцей чутны заявы дзеячоў палітычнай апазіцыі аб няздольнасці каманды Уладзіміра Пуціна правесці ў Расеі неабходныя эканамічныя, фінансавыя і сацыяльныя рэформы.

На думку прадстаўнікоў апазіцыйнага "Яблыка" ўлада ў Расейскай Федэ

рацыі працуе на абслугу зусім невялікага кола грамадзян.

Даецца пералік алігархаў і кіруючай вярхушкі. Вертыкаль выканаўчай ўлады пабудавана па прынцыпу Сталінска-Брэжнеўскага часу.

Яна састарэла для акамуляцыі новых ідэй, і не мае ў сваіх структурах маладых палітычных, навуковых лідараў, якія змаглі б правесці неабходныя рэформы.

Апазіцыянеры даюць для будучыні Расеі пад кіраўніцтвам Пуціна ўсяго два-тры гады. Менавіта за гэты час неабходна паспець змяніць дзяржаўны курс ад дагматычнага на пазітыўны.Іншага шляху для Расеі апазіцыянеры ня бачаць. Найбольш прадбачлівыя прагназуюць яшчэ і разбурэнне расейскай дзяржаўнай інфраструктуры за кошт ўсё большага пранікнення на тэрыторыю краіны нелегальнага ўсходняга бізнесу, які сваімі дзеяннямі давядзе банкава-фінансавую структуру да поўнага заняпаду.

## З блізкага Ўсходу

Хрысціянскі свет ў непакоі. Згодна інфармацыі службаў ААН па каардынацыі жыццядзейнасці бежанцаў спецыялістам вярэдзяць душы такія факты. За апошні час колькасць насельніцтва краін Блізкага Ўсходу, што прапаведаюць хрысціянства значна скарацілася.

На жаль, гэтая дэмаграфічная бяда прыйшла з боку нецярпімасці, і непрыняцця хрысціян ад разнастайных экстрымісцкіх арганізацый прапаведуючых дагматычны Іслам.

Адпаведна інфармацыі тых жа крыніц, пасля Другой Сусветнай вайны на тэрыторыі краін Блізкага Ўсходу хрысціянскае насельніцтва складала звыш 20-ці працэнтаў агульнай колькасці пражываючых. Зараз перапіс паказвае жахлівыя лічбы, ў некаторых краінах хрысціяне складаюць менш двух працэнтаў насельніцтва.



# Адвечнае , альбо sos міласэрнасці

На сваім журналісцкім шляху людзей , што прыходзяць ў рэдакцыю з тоўстымі папкамі сваіх папераў-цяжбаў бачыў шмат. Сюжэт тут вядомы як Божы дзень. Па месцы жыхарства нехта, неккаму, некалі невыканаў яго прозьбу, пажаданне.

І справа тут зусім ня ў тым, што нехта, некалі.Надзённы тут аспект нашай чалавечай маралі, чысціні душы.

Вось і ў выпадку пра які хачу расказаць тое самае. У вёсцы Навасёлкі Свіслацкага раёна разам з мамаю пражывала дачка Марыя Восіпаўна Грушэўская. Жылі небагата як ўсе сяльчане. Дзялілі з імі вясковыя радасці, праблемы. Адным словам беларуская талака.

Класік згадаў: "Ўсё мае пачатак, ўсё мае сваё заканчэнне". Так і ў выпадку Марыі Восіпаўны. Захваврэла мама . Дачка звярнулася да дактароў, тыя давалі парады, лекі ,непамагала. І здарылася трагедыя, мама адыйшла ў нябыт. Гора дачкі непамернае, памер адзіны чалавек з якім жыла столькі год любіла яго даччынаю любоўю.

Боль, што пасялілася ў душы гераіні маіх радкоў вядомая толькі ёй, бо кожны любіць, кахае., адчувае толькі па свойму. Боль-гэта страшная пакута, а калі гэтая боль душэўная, і яе выток, - страта любімай мамы, вызначыць тут мер жалю немагчыма. І толькі боль страты павёў Марыю Восіпаўну шукаць нейкай відаць, яе мройнай праўды. Мама мела амаль восемдзесят год. Дачцы падавалася, што лекары недагледзелі, недаслухалі, непрадыягназавалі. І падстава была, бо ня ў крыўду слугам Гіпакрата, яны часам згадваюць словы , а слова не варабей. Вось і ў выпадку пра які я пішу мела месца неасцярога слоў лекара, які згадаў дачцы:" Што ж раней не првезлі да нас хворую. Мы б дапамаглі". Словы ня новыя, Іх медыкі згадвалі ва ўсе часы і на ўсіх ўзроўнях.

**Працяг на 8 старонцы**

Але тут лекар пралічыўся, ён не адчуў меру болю ад страты ў сэрцы дачкі.А яна ўзяла словы на ўзбраенне. Яны цяпер штуршок ў пошуках той толькі ёй вядомай праўды, хто павінен ў смерці яе каханай матулі? Пайшла гарамычніца шукаць праўду. Складаная гэта рэч. Калі справа звязаная са стратай здароўя. Альбо лятальным зыходам. Паўсюдна адпіскі непаразуменні. І, канечне, страх і неўспрыманне прасіцелькі тымі кабінетчыкамі ў размовах з якімі яна спрабавала найсці сваю ілюзорную праўду.

Непаразуменні выклікаюць агрэсію ад ўсіх бакоў . Так і ў выпадку Марыі Восіпаўны. Яна спрабуе даказаць сваё, кабінетчыкі сваё.Ідзе звычайнае нагнятанне псіхозу бакоў і выйграе той, хто мае большыя рэзервы, больш моцны і трывалы псіхалагічны стан. Марыю Восіпаўну неразумеюць, непадтрымліваюць. Яе боль і агрэсія ўзрастае. І сёння яна гатова ісці да канца . Хоць над ёй ўжо павіс меч прызнання яе недзеяздольнай. Прозьбы пазаставіць бароцца і звярнуцца да Бога ня служаць кабеце суцяшальнікам.

Скажу адразу , я размаўляў са Свіслацкай шукальніцай сваёй праўды. Яна адэкватны чалавек, вядзе сваю гаспадарку, ходзіць ў лес збірае дары прыроды. Вось толькі яскрава заўважна стомленасць Восіпаўны ад даўгіх хаджэнняў па кабінетах, дзе не заўжды выслухаюць, зразумеюць і выкажуць падтрымку.

У гэтай гісторыі можа паставіць кропку. Вярэдзіць душу толькі тое, што мы, людзі сталі сухімі эгаістамі, нас не турбуе чужы боль. Мы адмаўляемся вывучыць першапрычыны гэтага болю. А найчасцей займаемыя чыноўніцкія, іншыя службовыя пасады патрабуюць гэтага ад нас ў поўным аб"ёме.Чалавек пазастаўся сам-насам з бядою,- стратай любімага чалавека.Ён перажывапе моцны стрэс. Яму патрэбны ў гэты час псіхолаг, а не нашы раўнадушша. І калі мы ўспомнім гэтыя хрысціянскія запаветы, то такіх выпадкаў ў нашыя людзкім асяроддзі стане значна меней.

# Сшытак гарадзенскай інфармацыі

## Аптэк болей, танных лекаў меней

Ажно на 24-ры дзяржаўныя аптэкі пабагацела за апошні час сетка фармацэўтычных медыцынскіх паслуг Гародні.

Аднак як заўважаюць самі наведвальнікі гэтых ўстаноў за патрэбнымі лекамі неабходна часта ездзіць з аднаго канца горада ў другі. І прычына тут вельмі банальная,- хвораму на ту ці іншую хваробу прапісаныя лекі не заўжды можна набыць па месцы жыхарства. Перашкаджае іх адсутнасць.Да таго ж гоняць ў пошукі гарадзенцаў і кошты на лекі. якія не заўжды аднолькавыя па ўсёй сетцы аптэк. Аптэкары тлумачаць розніцу праблемамі, і тэрмінам закупак , а часм і статусам ўстановы.



## Азот ізноў гарэў

Менавіта такая інфармацыя прыйшла а д прэс-службы абласнога ўпраўлення МНС. Пажар надарыўся раніцай сёмага траўня ў адным з вытворчых цахоў кпцельнай акцыянернага таварыства. Выгарэў дах на плошчы некалькі сецен метраў. На шчасце, ніхто з працуючых на гэты час ў цаху не атрымаў апёкаў і іншых раненняў. Тушылі ўзгаранне больш за трыццаць адзінак спецаўтатэхнікі. Лакалізаваць вогнішча пажарным ўдалося за трыццаць хвілін.

## Масты ня толькі наводзяць, але й руйнуюць

Толькі так можна ахарэктызаваць паступак двух маладых гарадзенскіх мостабудаўнікоў.

Прыйшоўшы на падпітку да месца працы хлопцы патрапілі на вочы майстру будуючага аб"екту. Вынік, медыцынскае абследаванне з некарысным для падпітых вынікам.

З мэтай знішчэння ўсіх слядоў свайго працоўнага парушэння, будаўнікі аблілі гаручым бытоўку, дзе адпачываў пільны майстар і падпалілі.

Ахвяры бяздушнасці выпівох удалося вырвацца з полымя. Па факту знішчэння дзяржаўнай маёмасці і спробы забойства ўзбуджана крымінальная справа.

## Працуем, прадаем болей, а жывем-выжываем

Згодна інфармацыі афіцыйных крыніц, знешнегандлёвае сальда Беларусі ў параўнанні са справаздачным перыядам мінулага года вырасла на 716 мільёнаў долараў ЗША. Пампезнасць заявы можна назваць крывадушшам, бо жывем мы як выжыць. Многія гаспадыні для сябе даўно перашываюць і цыруюць старое. Перавагу аддаюць не паходам ў крамы, што гандлююць новым таварам, іх месцы выбару абутку, адзення- гэта гандлюючыя кропкі секонхэнд. Вось табе сальда, а вось рэчаіснасць.

## Суботнік, традыцыі і абяцанкі

Амаль ўсё сваё маладзёвае жыццё, а гэта перыяд застольна-застойныз часоў памятаю сябе, як ўдзельніка штовясновага" ўсесаюзнага ленінскага суботніка". Людзі ішлі на суботнік як на свята ,на прадпроыемствах право-

дзіліся мітынгі, дзе аратары сцвярджалі, што заробленыя грошы народам на гэтым святе працы пойдуць на самыя запатрабаваныя мэты. Шлі дзесяцігоддзі, а савецкі народ ўсё бяднеў і бяднеў. Толькі прамовы аратараў гучалі з трыбун "пераканаўча".

Надыйшло 21-шае стагоддзе. І на нашай зямлі наноў адроджаны дні суботнікаў. За іх правядзенне згадваюцца самыя дабрачынныя справы і мэты.Толькі вось памалу пачаў гэты высакародны рух перарастаць ў звычвйны збор грошай. Напрыклад, сёлета ў Гародні ў некаторых медыцынскіх ўстановах наўзамен работы па ўборцы вуліц адміністрацыя запатрабавала ў калектыва ўнесці свае ўласныя грошы ў скарбонку так патрэбнай справы.

Такі вопыт не адзіны. Ён мае месца на тэрыторыі ўсёй рэспублікі. Толькі на што выкарысталіся грошы новых " самаахвярнікаў", што вельмі часта абураюцца ў крамах на рост коштаў нікому не вядома.

## Ноч музеяў

Арганізатары, а гэта творчыя калектывы музея гісторыі рэлігіі і гісторыка –архіялагічнага музея парупіліся . Гэтым разам арганізавалі дзею з двух частак.

Дзённая пачыналася з 11-ці гадзін раніцы была больш афіцыйнай і распавядпала прысутным аб гісторыі і скарбах, што захоўваюцца ў фондах музеяў Гародні.

Другая частка,- насіла назоў начной дзеі . Кожны ахвочы аглядаць музейныя рэліквіі ў праменях ліхтароў, павінен быў заплаціць трыццаць айчынных тысяч. Той, хто наведаў відовішча ноччу, непашкадаваў. Гасцей віталі музыкі гарадзенскага духавога аркестра , народныя майстры падрыхтавалі да паказу свае вырабы з саломы, лазы, скуры. Аздобілі музейныя экспазіцыі удзельнікі бальнага фэсту святам " на балі ў Тызенгаўза".

Адным словам і паглядзець было на што ня толькі культурна адпачыць дакрануўшыся да сівой мінуўшчыны , завесці новыя знаёмствы, а яшчэ проста пабадзяцца па тых месцах, што складаюць гонар гісторыі Гародні.

## Платныя экскурсіі-панацэя для бюджэта?

Зарабляць грошы справа пачэсная і карысная. Вось і даводзяць установам культуры задачы па заробку сродкаў для папаўнення бюджэта горада, раёна. сельсавета мясцовыя вертыкальшчыкі.

Зразумелая справа клуб, Дом культуры, арганізуй тут платныя вечарыны, дыскатэкі, балі , вясельлі. А што бібліятэкі, музеі?Іх прызванне сеяць мудрае, прыгожае , вечнае. Аднак –гэта адна справа, зусім іншая, фінансы. І думаюць экскурсаводы, малодшыя і старэйшыя навуковыя супрацоўнікі не аб мудрым і прыгожым, а аб тым, як знайсці , запрасіць і правесці платную экскурсію. Інакш апала, а за ёй як дамоклаў меч кантракт.

Ня веру, што тыя капейкі, заробленыя музеямі, бібліятэкамі выратаюць бюджэт, напоўняць яго недастаючую частку. Здаецца і пісаць няма пра што.

Ды прыгадаліся мне часы, калі быў яшчэ юнкорам. З захапленнем чытаў навіну размешчаную на старонках органа ЦК КПСС "Ізвестія", што дзеля выжывання пастар пратэстанцкага касцёлу ў Англіі даў дазвол на правядзенне ў святым храме пасляслужбовай дыскатэкі.

Выходзіць і вертыкальшчыкі суверэннай Беларусі наступілі на тыя ж самыя граблі.

# Паленне

**На літаратурных Парнасах імя Паўла Севярынца мала вядома дасціпнаму чытачу. Мы ж ведаем, што душа спадара Паўла прагне высокага, чыстага.**

**І ён з душою змагара, душою бунтара, душою вытанчанаю і пяшчотнаю прадстае перад нашым чытачом ў сваіх творах.**

Ад беларусаў пахла дымам. Гэта быў той гаркаваты, трывожны дымок чыгуначнай цягі, пах перасмоленых шпалаў і галю, які не выветрываецца на станцыях і вакзалах.Толькі што прайшліся, праверылі дакумэнты прыбалты, хлопцы папрасьцей і чысьцейшыя. Адзначылі кожнае купэ сваім запаволеным, старанным выгаварам зь нетаропкай запінкай, і застаўся ад іх толькі шчоўк зачыненых дзьвераў напрыканцы вагона.Зайшлі нашыя. Пашморгваючы, напаўголаса нешта гаворачы, з холаду — яны занесьлі ў надыханы вагон дымавітую сьвежасьць. Усе, хто ехаў, пазіралі на іх заклапочана, з насьцярогай —ну, што там?.. Не, тут вам ніхто нічога ня скажа. Гэта словамі не перадаць. Прыедзеце, убачыце самі.Пад шумок я пачуў безупрэчнае чэ, такое шчырае, што вільготна пацяплела ўвагу. Старэйшы, вусаты, узяў працягнуты пашпарт; вочы на міг вынырнулі з-пад цені фуражкі, зірнулі, і зноўку схаваліся ў цемень пад казырком. Зараз спытае, чаго вязу. Кнігі. Што яшчэ? Усё, толькі некалькі кнігаў, і больш мне нічога ня трэба.Той маўчаў, варушыў вусамі і разглядаў старонкі




**Працяг на 10 старонцы**

так пільна, нібыта дзяржаўная мяжа пазначалася дзесьці там, між дробненькіх літарак. Нарэшце, ледзь заўважна хітнуў сам сабе — усё правільна.Я схаваў пашпарт глыбей, пад крысо пінжака, і ўладкаваўся на сваёй бакавушцы больш ёміста й грунтоўна. Што ж, наперадзе —цёмная ноч насустрач руху, нямы халадок з-пад вакна, і чаканьне, на якое адпушчана столькі й столькі тахтаў чыгуннага перастуку. Паедзем, і недзе пасьля Маладэчна, бліжэй да гораду, трэба будзе выйсьці ды выпаліць штучку. Паліць я кінуў даўно, маю на ўвазе тыдні. Але тут без цыгарэты не абысьціся. Можна й псыхіку пасадзіць, сур'ёзна. Такія справы.Вакол варушыліся пасажыры, шукаючы пад коўдрай чагосьці цяплейшага, укладваліся й шэптам перагаворваліся. Няважна, пра што. Сьпіце спакойна. Я знаю, так спакайней, калі засынаеш, а нехта ўначы сядзіць ля вакна, як вартавы, і думае, падпіраючы падбародзьдзе.Мне сёньня ня спаць да самага Менску. Перш чым там выйсьці, трэба яшчэ раз усё перадумаць. Падрыхтавацца да ўсякага абароту пдзеяў. Выразна ўявіць сабе, дзеля чаго я пакінуў утульную Вільню, з гэткім сьпехам ды грукатам рассоўгаў архівы свае па шуфлядах і бегма рвануў на вакзал. Да падрабязнасьцяў перабраць: як будзе выкарыстаны страшны груз, ад каго трымацца падалей, і што мне сьвеціць пасьля. Я застаўся адзіны, але, здаецца, пакуль ня выдаў сябе нічым, ня здрадзіў, і не аступіўся. Урэшце, трэба быць гатовым — адным ударам зьдзейсьніць найвялікшую кару, да якой я ішоў усё жыцьцё. Зьдзейсьніць, як мага пачварней, каб атрымаць яшчэ больш пачуцьця. І ўбачыць, на свае вочы крах тае магутнае сілы, якой мы баяліся. І каяцца... Ну, паглядзім.Такі паўзмрок перад экранам вакна й столік на бакавушцы быццам прыдуманыя для пагойдваньня ды перастуку. Для таго, каб сядзець аднаму, вырашаючы самае важнае, і падтакваць рухамі рук. Я ціха.Цягнік крануўся. За вакном пайшло, паехала, перабіраючы дошкі штыкетніку, адымаючы крокі абходчыка й рухомыя цені, што тускна ўспыхвалі й гасьлі... І ціхенька адчулася, як з набіраным ходам падспудным кодам падстукваюць колы. Далёка



мігцелі агеньчыкі, перацінаныя ў цемры дрэвамі. Я глядзеў. Я спрабаваў учытацца ў гэты рух, зразумець. Краіна мая, што ж такое з табою творыцца, сярэднявечнае, таямнічае; што гэта за гекатомба на плошчы, што за жар і вагні... А яно ўсё мінала перад вачыма і прападала — пустым наборам, калі чытаеш па дзесяць разоў і не разумееш зьместу. Я глядзеў у сваё дваістае, цьмянае адлюстраваньне ў глыбіні шкла, і думаў, што лепей, каб разабрацца, пачаць зь сябе.

***

Першае, што прыходзіць у галаву — гэта кнігі дома ў бацькоў. Тамоў тысячы й тысячы. У пакоях стаяла цэлая архітэктура — у шафах, на паліцах і проста на падваконьніках. Помню, нязручна было рабіць дамашнія заданьні, усё ўпіралася ў кнігі, напханыя пад сталом. Большая частка, наколькі я ведаў, дасталася нам ад бібліятэчнай радні.Кнігі сьцяной стаялі ў залі. Заходзіш, і адразу зашклёная сьценка, галоўная вітрына ў доме. Напаказ усе каштоўнасьці: сэрвіз савецкага парцаляну, сямейныя тайны ў альбомах і дакумэнтах, шкатулка са срэбрам ды золатам, а таксама парфума —за дзьверцамі адчыняўся халаднаваты адэкалённы пах. І кнігі. Тамы ўсё больш цяжкія, пацямнелыя, поўныя зборы твораў. Вялікая Руская Літаратура. У некалькі паверхаў, так што верхніх без падстаўленага крэсла было не дастаць. О, гэта былі паважаныя кнігі. Пацёртыя, з умудранай сівізной у нітачках пераплёту, лісты ўсхваляваныя ад перагартаньня. Краем старонкі папера гусьцела ад сьлiненых пальцаў, і прасьвечвалі літаркі шрыфту, як кузуркі ў бурштыне.Яно ўсё яшчэ ў руках у мяне трымціць, дрыжэньне шкла, зь якім адкрываліся кнігі, і тхне халадком парфумы.Самым грамадным фаліянтам была «Москва». Яна ня ўлазіла старчма, і яе паклалі плітою. Такая велізарная й цяжкая, з такім цьвярдзенным рубам, што ёй можна было забіць. Гіганцкая, ілюстраваная; яе гулкія глянцавыя лісты раскрываліся, як дзьверы ў паркетныя залі. Я помню, ледзь трымаў яе на каленях. Развароты сполахамі. Крамлёўскія панарамы з дахаў сталінскіх шматпавярховак: глядзіш, галава кружыцца, і жах уявіць, як чалавек сарвецца адсюль, як ляціць у бездань, мільгае празь бясконцыя паверхі... Сталіца

— я моцна ўдыхаў блiскучы, навошчаны пах.Кожную кнігу, як адкапаны скарб, я зносiў у свой пакой, і там на некалькі дзён заміраў за чытаньнем. Тайны раманаў і прадмовы зь легендамі аўтарскіх біяграфiяў узбуджалі мяне неймаверна. Я нават сам пачынаў пап
ісваць — такім гарачым струменьчыкам, калі ўжо няўцерп, і толькі б дабегчы да чыстай паперы. Тое было першае смутнае прадчуваньне, што мне кнігамі жыць.Сядзіш да вечара, не ўключаючы сьвятла, учытваесься да зьмярканьня... Падымаеш вочы — і цемра. Пэўна, гэта з тых часоў я такі маўклівы. Я сутулюся. У мяне расплываецца зрок Кнігі — гэта было сьвятое. Іншага разу нам падбiралі бацькі. Цэлая цырымонія. Тата ўзважваў том на руцэ, сям і там раскрываў, звычайна трапна, трохі даліствваў, з над ломам разгладжваў далоньню — і пачынаў уголас. А калі ў нас штонебудзь пазычалі, кнігу ў чужыя рукі мама заўсёды загортвала. Найчасьцей у адрэз шпалераў, якімі кватэру абклейвалі, узорыстых, у тонкія кветачкі. Запамінальны звычай.

Нарэшце, настаўніца наша, русіца. Баюся, гэта яшчэ адна з тых прычынаў, якія так цяжка цяпер мне выдзіраць з крывёю. Яе голас, глыбокі, грудны, выношваў исконное «о». Яна чытала душэўна, духоўна — я верыў. І пасьля школы бадзяўся па вуліцах, спадзеючыся знайсьці ну хоць штонебудзь піцерскае.Перабірай, перабірай, корпайся ў генах і ранах, гэта табе зараз так пакутліва. Я ж памятаю, як ўсё чытался. Бунін. Абарвалася сэрца, і чуецца да гэтых пор — перагрук антонаўскіх яблыкаў, якія ссыпаюць на сырую зямлю дзесь пад Варонежам.І падгрукваюць чыгуначныя колы, буйна, паддонна падгрукваюць.Штосьці беларускае? Як падумаць, можа, і адшукаецца між падлеткавай драбязы нешта такое, накшталт пусьцяковай сьцяблінкі, якую няўцям пакусваеш. Хіба па-дзіцячаму буйны шрыфт тых беларускіх кніжак, што раз-пораз трапляліся ў залі. Несур’ёзна. Хаця, можа быць, і прыемна. Было ж прыемна бацьку, адукаванаму журналісту, калі прыязджалі ў вёску, прымаць між дзядзькоў і братоў тутэйшае гаварэньне. Трохі сарамлівае, ды сваё — гэта папахвала гародам і скотным дваром.Бог яго ведае адкуль, зь якіх такіх каранёў, я сам пачаў размаўляць. Здаецца, гэта была проста сіла цяжару. Зямная цяга. Я падаў, як яблык.Першыя курсы, унівэрсытэт. Зь нетраў, з пакойчыку ў прыгарадным панэльным доме, раптам — цэнтар гораду, самае сьвята. Пужаючая штурханіна з вышэйшымі розумамі, аб існаваньні якіх я й не падазраваў. Мы на дзіва хутка сышліся, і потым цэлай кампаніяй пасьля параў вывальвалі на праспэкт ці разам зьбіраліся на дэманстрацыю Нам ранілі грудзі белыя значкі, распаласаваныя чырваньню. Мы дасканала ведалі, хто вінаваты й што рабіць. Мы высакародна ўступаліся за кволенькую, вось-вось гатовую абамлець, беларушчынку. Па-рыцарску. Парасейску.І змагаліся. Я лазіў уночы па дахах, у цэнтральных кварталах, дзе старыя дамы і ўстановы з высакалобай стольлю. Я бачыў гэты горад з вышыні чалавечага палёту — баючыся сарвацца, па самым па краі. Дацяпер увушшу той крохкі крок на гарышчы, і вецер у верхавінах дрэваў варушыць ад жудасьці валасы, і ашалелае дыханьне ужо ўнізе, калі, задраўшы галаў, глядзіш, як трапечацца над крэпасьцю наша палотнішча.Мы ўзломвалі броняваныя дзьверы з дапамогаю некалькіх фразаў. Нам адкрываліся й задуха кватэраў, і бясконцыя калідоры студэнцкіх інтэрнатаў, дзе можна было адбарабаніць касьцяшкі пальцаў і пасадзіць голас. І калі за вечар даставалася хаця б колькі цёпленькіх беларускіх слоўцаў, хаця б вінаватая ўсьмешка, пажадана дзявочая — мы былі шчасьлівыя, і казалі сабе, што ня ўсё яшчэ страчана.

**Працяг у наступным нумары**

# Што пакупаем, ці тавар для тутэйшых

Стаяў напярэдадні ў чарзе . Пастаяць ў месцы дзе віруе вольная грамадзкая думка вельмі карысна ня толькі шэраговаму грамадзяніну. Чарга –гэта каталізатар праз які вольнадумства, а гэта проста думкі ўслых вельмі карысны тым, хто кіруе вертыкаллю ўлады на месцах.

Асабліва шчыруюць жанчыны, ім першым трэба добра падумаць, каб на тыя сямейныя грошы, што складаюць бюджэт накарміць , абуць дамачаццаў.Скажу ўсім, нашы жанчыны асаблівы народ. Яны ўсё разумеюць , ўсё ведаюць. Вось цытата адной пакупніцы:” Пайшла за рыбай. А рыба ўся ляжалая ня свежая, прамерзлая, за што плаціць такія грошы? За лёд і дрэнны пах”. Другая:” А паглядзіце на куры, што прадаюць нам замарожанымі? Там жа столькі вады пасля размарозкі тушкі, што гатаваць няма што . без дадатку вады ў каструлю можна рыхтаваць бульён.Куды глядзяць ўсе гэтыя кантралюючыя органы? Можа ім ўсё адно”.

Трэцяя”Прайшлася па шэрагах, дзе гандлююць кавай, гарбатай, цукеркамі, ўсім, што душа пажадае. Ўсе хваляць якасць свайго тавару, а прыдзеш да дому, паспрабуеш, сурагат ды і толькі. Вось надоечы, сваяк з заробкаў замежных прыехаў прывёз ў прэзент каву. Дык ад арамату слюнкі цякуць. А які смачны сыр з Эўропы. Іншыя іхнія артыкулы, нам да гэтай іхняй якасці яшчэ дога”.

Чацвертая” Дык і нашыя бізнесмены прывозяць тавар з замежжа, а чаму ён такі неякасны? Відаць купляюць дзе трапілася, ці там , дзе хочуць выкінуць, ды шкада. Вось і прадаюць нашым, а мы купляем і чуем ад іх пра эўрапейскую якасць, а на справе што ?”.

Пятая”Што ж гэта адбываецца з нашым народам. Дураць, яго шальмуюць. Не стае той зобленай капейкі, каб новую дыхтоўную рэч купіць. Ўсе як пад замову носяць вопратку, а можа і бялізну з крамаў, дзе красуюцца надпісы “Рэчы з Эўропы”.

І такімі размовамі жыве кожная чарга, а калі яшчэ нойдуцца ахвотнікі, ды пра палітыку згадаюць, тут такія дэбаты распачынаюцца, што многія парламенты ўсіх краін і кантынентаў пазайздросцяць.

# Лондан, даеш 25 медалёў

Менавіта столькі Алімпійскіх ўзнагарод ад членаў Нацыянальнай Алімпійскай зборнай запатрабавалі прывезці з лонданскай летняй Алімпіады функцыянеры ад беларускага спорту.

Заваёўваць ўзнагароды Алімпіады патэнцыял лідараў нашай каманды дазваляе, але пры ўмовах, што непаўторыцца гісторыя Пенкіна. Калі ў малатабойцаў Ціхана і Дзевятоўскага міжнародны антыдопінгавы камітэт ледзьве не адабраў медалі. Каб прайшло ўсё гладка, неабходна плённая і ўзаемаўзгодненая работа, як самога спарцмена, так і тых спецыялістаў, што адказваюць за перадалімпійскую падрыхтоўку атлета.



На ўвазе маецца трэнерскі штаб, лекары, спецыялісты па харчаванню, і шмат іншых людзей. Калі гэты штат спрацуе бездакорна, то без медалёў беларусы непазастануцца.

# Бойка фанатаў ў Слоніме.



Прыкладна 60-т аматараў спорту бралі ўдзел ў паслягульнёвай бойцы ў Слоніме, дзе мясцовы "Камунальнік" прымаў ў рамках розыгрышу чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу ў першай лізе Гарадзенскі " белкард".Гаспадары перамаглі з лікам 2 -1 . Пасля паразы сваіх любімцаў гарадзенцы ўсчалі бойку, якая працягвалася прыкладна дзесяць хвілін. Прыехаўшыя на месца праваахоўнікі засталі толькі аднаго акраваўленага фана , што ляжаў на асфальце. Дзякуючы здымкам пабоішча на камеры мабільных тэлефонаў міліцыянтам ўдалося выявіць зачыншчыкаў скандалу.

# Шэсце ад цэнтра да ваколіц

Гарадзенскія заўзятары футбола нарэшце задаволілі свій імпэт, атрымалі права на шэсце- мітынг па вуліцах Гародні.

З нагоды скарысталі прыкладна дзве сотні мясцовых ціфозі.

А вось тыя, хто маўкліва наглядаў за дзеяй збоку, выказаліся нават вельмі канкрэтна. Высокі спадар пенсійнага ўзросту згадаў так" лепей бы пенсію падвысілі, вось якія кошты ў крамах, забыўся са сваёй старой, калі еў далікатэсы. На гэты спорт грошы знаходзяць, а на астатняе нехапае. А так , што гэта шэсце ці прагулка, адным меней, адным болей!.



**Свабоднае інфармацыйнае выданне**
**Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.**
**Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты**
**Наклад 299 паасобнікаў**
**Адказны за выпуск: Георг Нёман**